# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 17 (1719) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 23 КРАСАВІКА 1989 г. ЦАНА 40 зл.




*— Што скажуць людзі, калі вы мне зробіце здымак сярод такога балагану? — непакоіцца мастаўлянскі солтыс.*

## ЖЫВУЧЫЯ НА ЗЯМЛІ...

— Зямля тут слабая, пяскі, але я вам скажу, што тут Украіны не трэба...

Сяргею Ляўкоўскаму, солтысу ў Мастаўлянах, 58 гадоў. Разам з жонкай Леанілай гаспадараць на 12 гектарах зямлі. Трымаюць чатыры каровы, ёсць свінні, авечкі. У Мастаўлянах усяго чатыры гаспадары, якія яшчэ трымаюцца зямлі.

Вёска раскінулася ўздоўж самой граніцы. Крокаў у пятнаццаці-дваццаці ад загуменняў цячэ Свіслач: паабапал яе — гранічныя слупы. З савецкага боку высіцца невялічкі хрыбет, аброслы сасновым лесам. Далей нічога не відаць. Ад поўначы ў Мастаўляны вядзе дарога са Свіслачанаў, у вёсцы яна разгаліноўваецца: направа, перад драўлянай царкоўкай і могільнікам на ўзгорку, кіруе на Зубры, а тая, што ідзе далей вёскаю, уздоўж граніцы — на Дубляны. Недзе з правага боку, за царквою, узгорак, дзе паўтара стагоддзя назад стаяў двор Каліноўскіх. Нейкі гісторык (з Лодзі, бадай) напісаў Сяргею Ляўкоўскаму, што Каліноўскі падбухторваў католікаў рэзаць праваслаўных і паліць цэрквы. Сяргей Ляўкоўскі не надта схільны лічыць Каліноўскага нацыянальным героем.

У 1915 годзе згарэла цэлая вёска. У апошнюю вайну згарэла палавіна, тая частка ад Свіслачанаў асталася, кажа Сяргей Ляўкоўскі. Гаспадарыць няма каму. У 22 хатах — пенсіянеры. 44 асобы бяруць карткі на мяса, удакладняе пані Леаніла.

Як жа калісьці людзі хацелі рабіць! А цяпер чортведама што дзеецца: парабілі нейкіх бездапаможных, хворых. Толькі б гандлявалі ды выпівалі! — Сяргей Ляўкоўскі ацэньвае сваіх аднавяскоўцаў без паблажлівасці.

Возьмем, напрыклад, калхоз у Зубрах. У іх справа ідзе някепска. Яны падпісалі дагавор з калхозам у Бераставіцы, купілі ад саветаў КАМАЗ-ы. Сеюць лубін, зямля, хоць і пяскі, дае плён. Але ж людзям працаваць не хочацца. Купілі сабе нямецкую машыну, каб капаць бульбу. Пасадзілі на яе дзвюх баб, каб тыя адбіралі камені, якія трапляюцца разам з бульбаю. Што ж гэта за работа? А тыя бабы бяруць тыя камені ды шпурляюць у трактарыста: стой, стаміліся ўжо, пара адпачыць.

У нашым калхозе працуе ўсяго 10 чалавек. Ну, пакуль што не маюць такіх вынікаў, як у Зубрах, але і ў іх справа наладзіцца. Трэба працаваць і будуць вынікі, нічога, што тут не Украіна.

Дзесяць гадоў назад зямлі было тут многа. Але 140 гектараў аддалі пад лес. Людзі павыязджалі, не стала рук для работы.

Калі перад вайною я пайшоў да майстра прывучыцца кравецкай справе, то сам даглядаў цэлы яго дабытак, карміў кароў і свіней, дроў яму назапасіў на тры гады. А цяпер не магу дапрасіцца, каб хтосьці прыйшоў павучыцца задарма ў мяне. Каму там да работы! Паўпасаліся, а ўсё наракаюць. Калісьці за швейную машыну „Зінгер" трэба было аддаць пяць кароў, цяпераka за палавіну каровы можна купіць шматаперацыйную машыну, не абы-якое ламачча. Чаго ж тут наракаць? Але каму патрэбна цяпер тая машына?

Пытаю ў солтыса Ляўкоўскага пра ягоную адукацыю. Ат, якая там адукацыя, адказвае ён. Перад вайною крыху падвучыўся ў польскай школе, пасля ў савецкай, у вайну мы крыху вучыліся гергетаць у нямецкай. Сем класаў я закончыў пасля вайны, у вячэрняй школе.

Сваіх сыноў мы прывучылі да работы, яны не пайшлі ў горад гультаямі. Адзін — тэхнік-электрык, другі — тэхнік-тэкстыльшчык, працуе на фабрыцы.

(Працяг на стар. 5)

## ПАЗАЙЗДРОСЦІЦЬ БЕЛАРУСАМ!

Пазайздросціць ім можа кожны паляк, які прачытаў у „Палітыцы" ад 1 красавіка апублікаваную рэпліку супроць мяне Лешка Тамашэўскага. Пасля таго, аднак, чаго начытаўся я пра нас на працягу лютага і сакавіка ў „Кур'еры Падляшскім" (дыскусія „Пад рознымі крыжамі"), дык гэты артыкулік пана Лешка каўтнуў зусім спакойна.

Праўда, б'е ён у мяне востра; папракаючы ў хлусні, несарыентаванасці, бескампетэнтнасці, благіх намерах. Злаяўшы такім чынам — за выказванне маё ў вроцлаўскай „Газэце рабатнічай", — праспяваў затым нешта накшталт арыі аптымізму. Можна ўсяляк аднесціся да ягонага канцэрціка, калі б не факт, што ён, відавочна, верыць у свае фантазіі і здумкі.

Лешак Тамашэўскі, таксама прафесар, катэгарычна паведамляе мяне і чытачоў шаноўнага тыднёвіка „Палітыка", што: „На Беласточчыне існуе 52 школы з беларускай мовай навучання". Магчыма, некалі і былі такія, сёння ж няма аніводнае. Існуе крыху школаў, у якіх дабраахвотна вучацца дзеці беларускай мове і літаратуры, але па гэтай прычыне хто ж усур'ёз будзе называць іх беларускімі, як і ніхто не называе, скажам, англійскімі тых школаў, у якіх ёсць прадмет англійскай мовы. Гэта ж датычыць і так званых беларускіх ліцэяў у Бельску і Гайнаўцы, у якіх жа ўсё польскае, акрамя — паўтару — прадмета беларускай мовы і літаратуры. Можа быць, што калісьці і яны былі беларускімі ў сапраўднасці, але не пры маёй памяці...

Лешак Тамашэўскі піша ў сваёй рэпліцы, што пісьменнікі „Белавежы" выдаюць свае кніжкі ў польскіх перакладах, і што гэта, ну, добра і выдатна! Калі аж такое шчасце, дык чаму ж яны не маюць магчымасцяў выдавацца на мове арыгіналаў, на роднай ім? Няўжо не хочуць, каб чыталі іх беларусы?

Пан Лешак Тамашэўскі паказаў сябе ахвотным даследнікам беларускага жыцця тут у нас. Таму, пры нагодзе, мушу падказаць яму: беларускія студэнты не выдаюць штомесячнік

(Працяг на стар. 2)

## ПАЗАЙЗДРОСЦІЦЬ БЕЛАРУСАМ!

(Працяг са стар. 1)

„Прысутнасць“, а толькі старонку ў „Ніве“ адзін раз у месяц. І рэдагуюць яе не адны студэнты беларускай філалогіі. А ў Гайнаўцы няма аніякага Беларускага музея; яго пакуль што будуюць і можа калі будзе... Трохі інакшай адбываецца і штогоднае Свята беларускай культуры ў Беластоку, пане прафесар: менавіта, не ў гарадскім тэатры, а ў... амфітэатры, які пабудавалі на даўніх праваслаўных могілках. Праўда, плюс ад гэтага той, што... нябожчыкі таксама маюць цяпер нагоду паслухаць раз у год роднае слова і задушэўныя беларускія спевы, замест рок-музыкі там праз усю вясну ды лета штонядзелі. І ніколі не прыехаў на гэтае свята беларускі калектыў з Амерыкі, хоць вельмі магчыма, што прыедзе аднак; кажуць, ужо сёлета. Гэтак жа кепска пераклалі вы, пане прафесар, назву „Беларускага народнага універсітэта, але не буду я ў гэтым месцы занадта дробязны. Аднак, трэба абавязкова дапоўніць, што дзейнічае ён не ў рамках Беларускага таварыства, а толькі ў будынку гэтага ж Таварыства; яго арганізатар хто іншы, і няма ў гэтага універсітэта ані рэктара, ані сакратарыята. Заняткі ў ім маглі б з бядою ды горам адбывацца нават у нейкай падбеластоцкай хаце, або і ў леснічанцы ў Белавежскай пушчы, калі б захацелі таго ягоныя неабавязковыя слухачы-аматары.

Цалкам неўпапад, пане, згадалі вы пра міжнародную сесію праваслаўных цэркваў — польскай, рускай, чэшскай, фінскай — у Беластоку ў мінулым годзе. Пра беларускую царкву на сесіі не было ж гаворкі. У новай жа царкве ў Гайнаўцы моляцца не адны беларусы, але і людзі, якія лічаць сябе за палякаў, украінцаў, русінаў і адзін Бог ведае, за каго...

Дарэшты крывадушшыць пан прафесар у разуменні культурных кантактаў з Беларускай ССР. Гэта ніякая прывілея беларусаў, калі памятаць, што ў цяперашняй Польшчы ў адзін голас крычаць пра патрэбу пашырэння сувязяў з эміграцыяй і з палякамі ў Беларускай ССР гэтак жа давай ім кантакт! Чаму ж тады, мы, беларусы, павінны біць паклоны з падзякай за магчымасць наведаць Беларускую Рэспубліку? Гэтага я не разумею.

З Лешкам Тамашэўскім палеміка ўсё-такі даволі недарэчная, як і само яго выступленне ў „Палітыцы“. Справа ў тым, што ён не ведае элементарных фактаў з беларускага жыцця, а тыя, пра якія чуў, перайначыў да непазнакі амаль. І што найгорай — беларускія праявы ў Беластоцкім краі лічыць ён як доказ нейкай літасцівасці над намі з польскага боку. На думку пана прафесара, мы павінны дзень і ноч дзякаваць за дазволенае і цалаваць улады па руках. Хаця б за тое, што можам пасылаць сваіх дзяцей у... польскія школы і разам з тым, час ад часу, паспяваць па-свойму ў хорыку, а пісьменнікі нашы — паказацца свету ў польскіх перакладах. І як быццам нічога мы болей не павінны хацець... Маем усё, што маюць, напрыклад, мазуры, шлёнзакі, кашубы, гуралі, курпі і г.д. Яны ж не наракаюць. І мы павінны ззяць ад шчасця ды красавацца, бы сват на вяселлі. І дзякаваць, дзякаваць, усё толькі дзякаваць! Праўда, пане, нямала з нашых здаўна дзякуе; „дзякавічаў“ напладзілася. дадзякаваліся „да ручкі“, і яны не будуць абураны Лешкам Тамашэўскім. Ён ім, як той добры вашэць пан даўней, у паншчыну яшчэ.

**Яўген Міранoвіч**

## БЕЛАРУСІКІ


Smułkowa Elżbieta, Ze studiów nad słownictwem białoruskim. *Slavia Orientalis* 1968, nr 2, s. 237—251, mapy.

Smułkowa Elżbieta, Leksykalne i słowotwórcze zróżnicowania białoruskich nazw ścierniska. *Slavia Orientalis* 1969, nr 1, s. 69—76, mapy.

Smułkowa Elżbieta, Lituanizmy w białoruskim słownictwie rolniczym. *Lingua Posnanienis* t. 14, 1969, s. 55—69, mapy.

Smułkowa Elżbieta, Słownictwo z zakresu uprawy roli w gwarach wschodniej Białostocczyzny na tle wschodniosłowiańskim, Wrocław 1968. Rec. Dzendzielewski Josyp. *Slavia Orientalis* 1969, nr 4, s. 461—463.

Smułkowa Elżbieta, Przykłady zróżnicowania morfologicznego gwar białoruskich Białostocczyzny. *Teksty gwarowe z Białostocczyzny*, s. 45—46.

Smułkowa Elżbieta, Wygonnaja Lilia, Z zagadnień rozwarstwienia semantycznego w słownictwie gwarowym. (Na przykładzie białoruskiej leksyki rolniczej). *Studia z Filologii Polskiej i Słowiańskiej* t. 12, 1972, s. 301—306, tab.

Smułkowa Elżbieta, Kuniewska Bożena, Akcentuacja rzeczowników w zabytku XVII-wiecznego piśmiennictwa białoruskiego „Bjasiedy Makaryja”. *Acta Baltico-Slavica* t. 10, 1976, s. 265—290. Rez.

Smułkowa Elżbieta, Akcentuacja rzeczowników w białoruskim systemie gwarowym wsi Knyszewicze powiatu sokólskiego. *Studia Rossica*, Uniwersytet Warszawski, t. 1, s. 103—121.

Smułkowa Elżbieta, Konstrukcje porównawcze typu gradacyjnego w języku białoruskim. (w:) *Zagadnienie kategorii stopnia w językach słowiańskich*, Warszawa 1976, s. 107—118.

Scjacko P. U.: Belaruskae narodnae slovautvarenne, Mińsk 1977. Rec. Witkowski W. *Slavia Orientalis* R. 28: 1979, nr 3, s. 355—358.

Smułkowa Elżbieta, Studia nad akcentem jęzvka białoruskiego (rzeczowniki), Warszawa, Wyd. UW 1978, s. 191, tab. Rozprawy Uniwersytetu Warszawskiego, 128.

Smułkowa Elżbieta, Białoruskie kudr'avy to nie zawsze „kędzierzawy”. *Acta Baltico-Slavica*, t. 14, 1981, s. 241—244.


## Пра нашых пісалі...

У „Чырвонай змене“ ад 25 лютага г.г. было змешчана інтэрв'ю з нашым беластоцкім пісьменнікам Сакратам Яновічам. У парадзе папулярнасці, які „Чырвоная змена“ праводзіла пад канец мінулага года, Сакрат Яновіч узяў першае месца сярод найлепшых... замежных публіцыстаў. У прыдбанні гэтай вядомасці, як мяркуем, дапамагла перш за ўсё нашаму „белавежцу“ „Ніва“. Прапануем чытачам некаторыя ўрыўкі з выказваннаў С. Яновіча. Інтэрв'ю ўзяў мінскі журналіст Вітаўт Мартыненка.

— Як вы ставіцеся да таго, што Вас ведаюць у Беларускай ССР, і чым тлумачыце гэты поспех?

— Адкажу так: здзіўлены! Адчуванне вядомай прыемнасці з'явілася неяк пасля... Выяўляецца: ведаюць мяне ў Беларускай ССР не як пісьменніка перш за ўсё! Факт, і нічога не папішаш супраць яго.

Публіцыстыкай жа я займаюся між іншым. Яна для мяне не галоўнае, але і не пішу яе „на калене“. Колькі месяцаў прысвяціў цыклам рэпартажаў з Беларусі, Англіі, Югаславіі, Канады, Злучаных Штатаў. Даліся яны мне не абы-якім коштам; седзячы над імі, не быў я ў сілах брацца за яшчэ што-небудзь. Вось так: мяне цікавіць прысутнасць Беларусі ў свеце. Гэта адсюль я публіцыст.

— Ці былі вы калі-небудзь у Беларускай ССР? Колькі вашых кніжак выдавалася і дзе?

— Быў шмат разоў. Мяжа распалавініла амаль кожную сям'ю ў Беластоцкім краі. Блізкія сваякі мае — у Гродне і Мінску (напрыклад, кампазітар Юрый Семяняка), у Крэве і Астраўцы...

А колькі маіх кніжак? Дакладна — шаснаццаць ужо. З іх — адну напісаў па-польску. Звычайна выдаюцца яны ў Варшаве. У Лондане ж — выбраныя мініяцюры, адначасова змясцілі побач іхнія арыгіналы. З перакладамі, якасцю ўсялякае бывае, але сам ніколі не браўся за іх, хоць здаралася мне папраўляць польскую мову ў маіх палякаў. Меншае гурт зацікаўленых беларусчынай — і гэта праблема. Таму з надзеяй успрыняў я вестку пра першы ў Мінску семінар перакладчыкаў, у якім прынялі ўдзел і палякі.

— У „Ніве“ вы часта пішаце аб беларусах у Англіі, Канадзе, ЗША... Як вы ацэньваеце духоўны патэнцыял беларускай эміграцыі? Дый ці толькі аб эміграцыі правамоцна гаварыць з нагоды замежна-беларускага жыцця?

— Патэнцыял гэты невялікі, як і сама наша эміграцыя. Беларусаў наогул там значна больш, але з імі, як і з намі ў сябе: хто ў палякі пашыўся, хто ў расіяны або ўкраінцам зрабіўся...

Замежна-беларускае жыццё мы чамусьці ўсё яшчэ трактуем у катэгорыях палітычнай барацьбы... У Чыкага і Нью-Джэрсі, у Таронта і ў Лондане я жыў сярод беларусаў, якія выехалі туды ды аселі жыць па чыста эканамічных прычынах. Яны — эміграцкая стыхія, за іх грошы адбываюцца шмат якія нацыянальна-культурныя мерапрыемствы на чужыне (дзяржаўныя органы не даюць ані долара!). Напрамак у іх — дапамагаць бацькаўшчыне па меры магчымасцей і здольнасцей. Клапоцяцца пра добрае імя Беларусі ў свеце. Скажу і так: нярэдка фанатычна не дапускаюць да сябе ніякай крытыкі нашай рэчаіснасці, ідэалізуюць, што псіхалагічна натуральна ў выгнанні: свая маці, калі яе страціш, заўсёды найпрыгажэйшая і найдабрэйшая.

— Які бок літаратурнай дзейнасці вам найбліжэйшы?

— Кароткія формы. Мініяцюры, апавяданні. Польская крытыка, мне здаецца, трапна гэта заўважыла. Я не эпік, а лірык. У мяне ёсць ідэяманія: пісаць толькі неабходныя, крайне неабходныя словы. Над творам з пяці сказаў іншы раз працую некалькі месяцаў (вядома, не дзень у дзень: крый божа!). Скажу так: кожны мой твор — гэта прэтэнзія да чалавека і свету. Пісьменнік, які задаволены сабой і ўсім, — гэта не пісьменнік. Ён — графаманскі праклён літаратуры. Лепш няхай піша даклады начальству, усё роўна якому...

— Якія вашы погляды на беларускае нацыянальнае адраджэнне: аптымістычныя ці песімістычныя? Чаму?

— Беларускае не можа не адрадзіцца! Хаця б таму — занадта не паглыбляючыся ў трафарэтныя праўды — што наўкол Беларусі няма мёртвых нацый, моў. Быццам у тым славутым сацыялістычным эксперыменце: чалавека са схільнасцямі быць брудным і неахайным пасялілі сярод чыстых ды акуратных, і як ён не пакутаваў, усё ж памалу пачаў мыцца штодзённа ды больш прыстойна выглядаць... Звярніце ўвагу, што ўвесь беларускі рух нарадзіўся і разгортваўся па аналогіі з суседнімі. Я разумею, што гэта спрошчана, але вы задумайцеся ўзамен, чаму быў усё ў хвасце (?) Ясная справа, аб'ектыўных прычын таго знайшлося не менш, чым у гістарычным анекдоце пра ўрачысты ўезд Напалеона ў Ліён: — А дзе ж артылерыйскі салют? — запытаў імператар. — Сір, — спалохана залапатаў мэр, — сто прычын на гэта склалася: па-першае, у нас няма гармат...

— Даволі, пане, наступныя можаце не пералічваць, — адказаў Банапарт.

У нас, беларусаў, на шчасце, адваротная сітуацыя: маем гарматы! Толькі порах да іх трэба давезці. Беларусаў выратуе іх вялікая культура, якая паспела вырасці, нягледзячы на ўсялякія сілы і тарнада (назва смерчаў у ЗША). Дарэчы тут і такое параўнанне: зуброў у Белавежскай пушчы развялі ад адной пары ўсяго, што ўцалела ў запарку дзесьці ў Еўропе (у Швецыі?). А сёння цяжка палічыць іх... Словам, аптыміст я. Дакладней: сумны аптыміст.

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## У ГАЙНАЎЦЫ ДЗЕЙНІЧАЛІ РАЗАМ

10 сакавіка гэта не быў звычайны дзень у жыцці беларускага маладзёжнага асяроддзя. У Гайнаўскім доме культуры „Гурнік" сабраліся разам студэнты з БАСа і моладзь з бельскага і гайнаўскага беларускіх ліцэяў на своеасаблівае спаборніцтва, а таксама, каб супольна паспяваць, патанцаваць, проста — спаткацца. Аб тым, каб наладзіць такую сустрэчу, гаварылі яшчэ на з'ездзе БАСа. Мерапрыемства вялі Данка Мароз і Юрка Каліна — абое з БАСа. Зацікаўленне імпрэзай аказалася даволі вялікім. Зала была перапоўнена.

На пачатку супольна спявалі студэнты з вучнямі пад гукі гітары Элі Бэзюк. А потым пачалося сапраўднае спаборніцтва, над ацэнкай якога рупліва працавала журы ў складзе: Марылька Базылюк, сяброўка наша, зараз настаўніца беларускай мовы, Юры Туронак, гісторык і журналіст, шчыры прыяцель моладзі, і Янка Мордань — мастацка-тэатральны дзеяч на роднай ніве. У іх было цяжкое заданне — належна ацаніць усё паказанае.

Спаборніцтва пачалося ад зарэкамендавання сваёй каманды. Гайнаўляне выступілі пад назваю „Калі ласка", бяльчане — як „Тураўцы", а студэнты — пад назваю „Басалыгі". Розныя лозунгі і заклікі тыпу „Без „Парнаса" няма БАСа", „БАС, вы вісіце ў нас", „Гайнаўка і „Парнас", вы прыдзеце да нас" падбадзёрвалі ўдзельнікаў.

Канцэрты былі сапраўды цікавыя і давалі магчымасць выказацца не абы-якімі здольнасцямі, талентам, гумарам і ведамі, якія так патрэбныя ў нашай былі... Паказ моды лета '89, конкурс танца „disko", выкананне сучаснай беларускай песні — тут можна было выказаць найбольш фантазіі. Пачулі мы, напрыклад, у новым, вельмі цікавым выкананні „Чараўніцу" і „Ручнікі", пераканаліся, што ў міні-спаднічках і „шпільках" дзейнічаць могуць таксама хлопцы і выглядаюць зусім нядрэнна. Амаль што былі сведкамі секс-стрыптызнага сеанса, але ў найбольш цікавым моманце ўсё перарвалася.

Вялікім маштабам сваіх магчымасцей маглі пахваліцца расказваючыя легенды сваёй зямлі. Аказваецца, не ўсе нашы „гісторыкі" разбіраюцца дастаткова добра ў сваёй дзялянцы. Конкурс з дыктоўкай прайшоў надзвычай спраўна. Амаль ніхто не зрабіў памылкі, ну, вядома, пісалі не лідэры паасобных каманд. У тым часе найлепшыя „мастакі" з паасобных груп малявалі партрэты сваіх лідэраў. Яшчэ „апошнія паведамленні" з беларускага жыцця ў свеце і фрагменты спецыяльна падрыхтаваных п'ес — ды пара ўжо канчаць спаборніцтва. Мерапрыемства завяршылася супольнымі гульнямі ў рытм музыкі калектыву „Дубіны".

Камісіі трэба было належна ацаніць выступаючых. І тут лёс усміхнуўся Гайнаўцы, а мы — БАСаўцы — заваявалі трэцяе, значыць апошняе, месца, бо Бельск быў другі. Але думаю, што акурат гэта не было найважнейшае. Галоўнае, што такое мерапрыемства ўвогуле адбылося, што маглі мы сустрэцца разам, пагуляць і патанцаваць. Здаецца мне, што не спосаб, якім дасягаюць нейкіх мэт, найважнейшы. Трэба карыстацца ўсімі магчымымі сродкамі: забавай, песняй, гульнямі, — а ўсё дзеля мэты аднае — каб не загінула наша мінулае, наша культура, каб захаваць сваю нацыянальную тоеснасць. Я — аптыміст, лічу, што гэта нам удасца. Дык што ж — да сустрэчы праз год, на гэты раз у Бельску!

**БАСалыга**






## СЛЕПАТА ЦІ АНТЫПАТЫЯ?

У кароценькім артыкуле („Ніва" ад 15 студзеня 1989 г.) „Ці з усяго можна смяяцца" Ю. Каліна крытычна ацэньвае атрасіны першакурснікаў-беларусаў у Варшаве.

Я таксама хацеў бы сказаць некалькі слоў на тэму атрасін, таму што браў удзел як у варшаўскіх, так і беластоцкіх атрасінах, і маю магчымасць параўнання. Прызнаю слушнасць Каліне, што арганізатары адказваюць за невялікую колькасць удзельнікаў, не адказваюць яны, аднак, за алкаголь, якім шчодра частаваліся ўдзельнікі мерапрыемства не толькі варшаўскага, але і беластоцкага. Думаю, што калі б нельга было піць за сталом, госці пілі б у іншым месцы. Ю. Каліна піша таксама пра словы, якімі карысталіся арганізатары атрасін у Варшаве: „прычашчаецца раб божы" (арыгінальны правапіс Ю. К.) і „ёсць Пётр, а дзе Павал". На яго думку, гэтыя словы былі... магілай цэлага мерапрыемства. Як быццам таго было мала, гаворыць пра маральную адказнасць арганізатараў за гэтыя словы. На маю думку, для інтэлігентнага чалавека — а думаю, што такім з'яўляецца Ю. Каліна — не павінна быць тэм „табу".

Хіба што стаў ён пурытанінам?!

Моўныя памылкі таксама здараюцца не толькі дылетантам, але і прафесіяналам. Па сутнасці Ю. Каліна з'яўляецца дзіўным чалавекам: бачыць усё мерапрыемства ў чорных колерах. Цікава, чаму ён не параўнае беластоцкіх атрасін з варшаўскімі? Усе мае сябры і сяброўкі (і не толькі), якія прымалі ўдзел у варшаўскіх і беластоцкіх атрасінах, гавораць, што ў Варшаве было цікавей, чым у Беластоку, больш — такія атрасіны трапляюцца раз на некалькі гадоў.

Здаецца мне, што сябра Юрка паводзіць сябе як такі чалавек, што бачыць саломіну ў воку другога, а ў сваім не бачыць бервяна. Мо гэта была зайздрасць з боку беластаччан, што беластоцкае мерапрыемства не было такім, як варшаўскае?!

**Андрэй Іванюк**

## СТУДЭНТЫ ПРЫЕХАЛІ!

У суботу раніцай у мой пакой убег усхваляваны Яўген. Мяне вельмі здзівіла, чаму гэта пасля ўчарашняй „імпрэзы" Яўген такі дынамічны. Зараз жа за ім укаціўся ў пакой яшчэ не зусім цвярозы Юрка. Хлопцы заявілі мне, што сёння ў Вітаве забава і мы можам разам там падзейнічаць. Вітава — суседняя вёска, яна недалёка ад вёскі нашага Яўгена. Можна будзе зайсці да яго бацькоў, пераначаваць!

Каля другой гадзіны, памытыя і апранутыя як трэба, мы апынуліся на чыгуначнай станцыі ў Варшаве, каб падаліца праз Седльцы ў Вітава. У Седльцах да нас падселі вельмі прыгожыя дзяўчаты. Тут і пачалася гаворка, ну, вядома, на польскай мове. Калі мы толькі пераехалі Буг, нашыя дзяўчаты, што нас вельмі здзівіла, пачалі гаварыць па-свойму. Яны жывуць у Чаромсе і вяртаюцца са школы да бацькоў. Яўген іх таксама хацеў запрасіць на забаву, але, на жаль, яны не згадзіліся. З гэтай прычыны найбольш сумаваў Юрка, таму што адна з дзяўчат вельмі ж яму спадабалася.

Больш нас нічога цікавага не спаткала на дарозе ў Вітава. Каб пайсці на забаву, было яшчэ зарана і мы рашылі пайсці ў госці да Яўгенавых бацькоў. Трэба было ісці лесам. Там калісьці была сцежка, але размякла і балотнай сцяжынкай мы ішлі 3 кіламетры. Найбольш шкада было Колевых італьянскіх чаравікаў. Замурзаныя, але вясёлыя, мы дабіліся на Яўгенаву бацькаўшчыну. Там новая нечаканасць: у Вітаве няма забавы, таму што галоўны арганізатар не аформіў усіх спраў. Што ж нам было рабіць! Яўгенавы бацькі знайшлі на гэта раду. Маці густа заставіла стол, знайшлося і „гаручае". Брат Яўгена, Юрка, таксама не спаў. Ён пабег на вёску склікаць дзяўчат. Прыйшла моладзь з цэлай вёскі і ў сенях Яўгенавай хаты пачаліся танцы (бацька цудоўна іграў на гармоніку). Адным словам, забава, як з саракавых гадоў. Пасля поўначы прыехалі яшчэ хлопцы з Вітава, якім нешта ў душы падказала наведаць Яўгенавага брата.

Раніцай, папіўшы квасу, бацька адвёз нас на чыгуначную станцыю, а адтуль цягнікам панясло нас у Варшаву. Юрка жыў падзеямі мінулай ночы, Коля бедаваў па чаравіках, Яўген туліў да сябе поўную сумачку ад маці, я думаў над тым, што гэта ўсё трэба ўвекавечыць.

Вось як мы „запускаліся" на Беласточчыне.

**Алёша з-пад Кленік**

Глыбокія спачуванні сяброўцы Данучэ Мароз з прычыны смерці бацькі.

**Галоўная рада БАСа**

Віктар Швед

## ВЕРБНІЦА

*Не я б'ю —*
*Вярба б'е.*
*За тыдзень*
*Вялікдзень.*

*(З народнай песні)*

Парой вясноваю,
Бесперапынку,
Нясуць вярбовыя
Ў царкву галінкі.

І многа коцікаў
На іх пушыстых,
Жоўтажывоцікаў
І серабрыстых.

Свяціць вадзіцаю
У храме будуць,
Паводле звычаю
Нашага люду.

Галінкі гэтыя,
Таты ці мамы,
Заткнуць з прыкметаю
За абразамі:

Каб мы між нівамі,
У родных хатах,
Былі шчаслівымі,
Жылі багата.

Калі ж у Вербніцу
Нас б'юць вярбою —
Няхай нам верыцца:
Каб збыцца мроям.



У цэнтры Гайнаўкі ў парку асяродка спорту і рэкрэацыі шпак пасяліўся ў дупле старога дрэва. Фота Л. Пільскага.

Анатоль Прохараў

## ВЯСЁЛЫ ШПАК

Шчаслівы
Свішча шпак на клёне:
— За домік новы
Дзякуй, Лёня!
Уночы
Дождж ішоў — не змок.
Ну не кватэра —
Церамок!
Усё як след:
Акенца, сцены.
Шкада,
Няма тэлеантэны!

Янка Купала

## ВЯСНА

У вянку з пралесак,
У святлянай шаце
Ходзе борам-лесам,
Полем, сенажацяй.

Сонцу-яснагрэю
Расплятае косы,
Раніцамі сее,
Як брыльянты, росы.

Сцелецца травіцай,
Ветрыкам шапоча,
Коціцца крыніцай,
Рыбкаю плюскоча.

Весела міргае
Сошцы і баронцы,
Зернетка хавае
Ў свежай баразёнцы.

У гайкі заходзе,
Шапаціць лісткамі,
Гутарку заводзе
З белкамі, дзятламі.

Роднае прыселле,
Вырай любіць вуча,
Лад вядзе ў капэле
Грамады пявучай.

Сяміцвет-вясёлкай
Здзе над далінкай,
Ходзе за кароўкай,
Гляне і ў хацінку...

І усюды гэтак —
Полем, сенажацяй,
У кароне кветак,
У святлянай шаце.




Апавяданне паводле легенды

— Татары! — пачуўся ззаду перапалоханы хлапечы голас. — Татары! Дзеду, татары!

Стары, адганяючы пчол, разагнуў спіну, прыгледзеўся. З лесу ў яго бок шпарка бег хлопец-падлетак.

— Што здарылася?

— Татары! Хутка будуць тут, — хлопец цяжка дыхаў, з ілба капалі кроплі поту.

— Можа яны не сюды? — як бы самога сябе спытаў стары. На яго жоўтым твары нельга было заўважыць прыкметы нярвовасці.

Падумаўшы хвіліну, ён правёў сваімі сухімі доўгімі пальцамі па беларусай галаве хлопца, разважліва дадаў:

— Вось што, хлопец, няма чаго табе тут рабіць, бяжы на астравы да людзей, і каб нікога адтуль не было.

— Дзед, — заіскрылася сляза на вачах падлетка.

— Бяжы, дзетка, бяжы адсюль хутчэй, бяжы да людзей.

Хлопец церануў рукавом мокрыя вочы і кінуўся на балота. Зусім побач, у нейкіх сарака кроках пачыналася багна, на якую не ўсякі меў мужнасць ступіць нават у вялікую сухоту.

Сонца збіралася ўжо схавацца за вершалінамі дрэў, калі на ўскраіне паляны з'явіліся чатыры коннікі. Яны акружылі старога. Татары! Гэта стары зразумеў адразу. Здзіўляла іх адзенне: усё скураное, доўгія футравыя шапкі, і гэта нягледзячы на страшэнную духоту. У кожнага з-за спіны тырчэў лук і стрэлы.

У нос ударыў моцны пах змешанага мужчынскага і конскага поту. Стары моўчкі працягваў рабіць сваю справу.

— Гэй! Дзе ўсе? — не вытрымаў адзін, паказваючы ў бок зямлянак. Ён гаварыў з моцным акцэнтам, але даволі зразумела. Стары падняў галаву, зноў нічога не сказаў. Нечакана яго плечы абдаў востры боль. У той жа момант татарын кінуў плётку і ўскінуў лук.

— — Пачакай! — уступіўся другі. — Ён нам спатрэбіцца. Відаць усе, хто тут быў, схаваліся на балоце.

Неўзабаве з лесу выскачыла некалькі коннікаў, адразу яшчэ і яшчэ. Хутка ўся паляна была запруджана татарамі. Усе, як нападбор, падобныя адзін на аднага: кожны з жалезным адценнем на рашучых тварах. Коні рваліся пад імі, прадчуваючы дзікае паляванне.

— Калі хочаш лёгка памерці, пакажы дарогу!

Стары паглядзеў на коннікаў, потым на балота. і ўсміхнуўся.

— Тут зусім побач, усяго тры палёты тваёй стралы.

(Працяг на стар. 10)



Вучні першага класа са школы № 3 ў Бельску. Фота Яніны Чэрнякевіч.

## ПРА КІШЭНЮ
(З народнага)

Я пра кішэню вам песню спяю,
Знаюць усюды кішэню маю.
Калі ў ёй нешта каштоўнае ёсць,
Дык я для ўсіх і таварыш і госць.

Я прагуляцца за вёскаю рад,
Ходзяць машыны туды і назад.
Кожны шафёр у кабіну гукне,
Калі што ёсць у кішэні ў мяне.

Хоць я на працу амаль не хаджу,
Дасць мне любога каня брыгадзір
Ці то па восені, ці па вясне,
Калі што ёсць у кішэні ў мяне.

Рана ці позна прыйшоў я дамоў,
Лішнюю недзе гадзіну правёў,
Але ж і жонка не дужа кляне,
Калі што ёсць у кішэні ў мяне.

**Сямён Пацёмкін**

Малыш плача на вуліцы:
— Чаго плачаш, хлопчык? — пытаецца прахожы.
— Я згубіўся.
— А дзе ты жывеш?
— Не ведаю, мы сёння пераехалі на новую кватэру.
— А як ваша прозвішча?
— Не ведаю, учора мама зноў выйшла замуж.

*

Суддзя: — Калі адказчык назваў вас насарогам?
Ісцец: — Тры гады таму назад.
Суддзя: — Чаму прад'яўляеце судовы іск толькі зараз?
Ісцец: — Я ўчора ўпершыню быў у заапарку.



*Не гавары, што ты мая сястра, хачу пабачыць, як яна сябе будзе паводзіць...*





## АФАРЫЗМЫ

*

Гэта хвароба нашага свету. Выкідае ён на хлам устарэлыя паравозы, дынама-машыны, але не хоча выкінуць устарэлыя забабоны, пераджытую мараль, старыя рэлігіі і палітычныя канстытуцыі.

*

Фізічнае насілле з'яўляецца зброяй, пры дапамозе якой дурнота і нікчэмнасць можа заўсёды перамагчы і зніштожыць розум і дабрачыннасць.

*

Журналісты ў гэтай краіне атрымоўваюць надта скромную зарплату, каб ведаць аб чым-колечы, што падыходзіць да друку.

*

Ён нічога не знае, а здаецца яму, што ведае ўсё. Гэта выразна прадвызначае яго да палітычнай кар'еры.

*

Памылкова меркаваць, што розніца паміж мудрасцю і дурнотай мае што-колечы супольнага з розніцай між дарослым узростам і маладосцю.

*

Нічога, што варта мець, немагчыма дасягнуць без рызыкі.

*

Пакараннем ілгуна не з'яўляецца тое, што яму ніхто не верыць, а тое, што сам не патрапіць верыць нікому.

**Джордж Бернард Шоў**

## ГРАЮЦЬ, СКАЧУЦЬ НА ДВАРЫ







(народная)

*Граюць, скачуць на двары;*
*Камар жэніцца стары.*
*Кінуў жонку і дзяцей,*
*Муху выбраў маладзей.**

*Маладуха муха рада,*
*Хоціць ёй і пайаклада,*
*Модных туфель дваццаць пар*
*Купіць ёй стары камар.*

*На вячоркі муха ходзіць,*
*Ад хлапцоў не адыходзіць,*
*А камар наш пазірае,*
*Усё сумуе да й ўздыхае.*

*Як камарык ажаніўся,*
*Не на жарт ён зажурыўся,*
*Не жыццё пайшло, а мука,*
*Цяжка жыць з маладухай.*

*Як прыгожна, як прыкрыжне,*
*Наш камарык і не пікне.*
*Ці жадай, ці не жадай —*
*Маладуху паважай.*

*Ой, нажыў камар бяды,*
*Ні туды і ні сюды.*
*Стара жонка не даруе,*
*Маладая запілуе.*

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 60 | 52 | 94 | 82 | 61 | 1 | 69 | 23 | 37 | 44 | |
| 41 73 | 65 | 63 56 | 74 | 19 67 | 99 | 87 | 55 | 90 | 75 | 8 |
| 9 48 | 31 | 85 | 53 | 11 | 64 | 35 62 | 3 | 15 | 27 | 40 |
| 77 | 59 | 88 | 45 30 | 42 | 66 68 | 50 | 84 96 | 24 | 33 | |
| 70 97 | 7 | 25 | 16 | 81 | 71 | 51 | 12 79 | | | |
| 13 38 | 54 | 18 | 49 22 | 93 78 | 46 | 32 | 98 | 92 | 89 | 17 |
| 6 | 29 | 83 | 86 | 58 | 26 | 57 | 43 | 28 | | |
| 91 72 | 34 | 80 | 39 | 14 | 95 | 4 | 47 | | | |
| 100 21 10 | 76 | 2 | 36 | 20 | | | | | | |

### ПРАВЕР СВАЮ НАЗІРАЛЬНАСЦЬ

Пакажы па чарзе лічбы ад 1 да 100, размешчаныя на малюнку, і заўваж, колькі мінут спатрэбілася на гэта. А вось табліца, якая вызначыць тваю назіральнасць: да 8 мінут — выдатная, да 10 мінут — добрая, да 15 мінут — пасрэдная, а звыш 15 мінут — кепская.

## ГУМАР З БАРАДОЮ

### НЕ АБРАЗІЎ

У аднаго пана сялане абраблялі зямлю на паланіне. Восы аднойчы правесці снапы да новай клуні, пан выйшаў. Дзядзькі сталі закурваць, а адзін з іх не курыць, і пан таксама не курыць.

Адзін дзядзька і кажа:

— Хто не курыць і не нюхае табакі, той не варты сабакі!

А пан кажа:

— Дык гэта выходзіць, што і я не варты сабакі?

А дзядзька:

— Ды не, паночак, вы варты двух, ды яшчэ і добрых!

### ГАНАРЫСТЫ ПАН

Пусціў чалавек пасвіць каня. Конь зачасаўся к пану ў авёс. Пан быў дома, угледзеў у аўсе каня і сказаў парабкам, каб злавілі. Забралі яго ў хлеў. Увечар пайшоў чалавек па каня. Пан сядзеў на ганку. Мужык нібыта не бачыць пана, ідзе і сумысля гаворыць моцна, каб пачуў пан:

— Калі наш пан з вялікіх паноў, то аддасць так каня, а як з простых мужыкоў, то злупіць тры грошы.

Пан усё гэта чуе. Падыходзіць мужык, здымае шапку, просіць, каб аддаў каня.

— Забірай, — кажа пан, — ідзі, псія крэў, да д'ябла.

**Даслаў Алег Урбановіч з Ліды**



Старайся заўсёды быць карысным, але ніколі — незаменным.